**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 28 (744) 10 ліпеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Глыбоцкія Электрычныя Сеткі на святочным шэсці.

**З 3 па 5 ліпеня Глыбокае адзначала свой 600-гадовы юбілей. Насамрэч, Глыбокаму – больш за 1000 гадоў, аб гэтым сведчаць знаходкі археолагаў. Проста, ранейшых пісьмовых звестак аб Глыбокім, пакуль, не знайшлося, а мо іх і не існуе. Больш таго, сённяшняе Глыбокае складаецца з трох гістарычных частак: Глыбокае-мястэчка, Глыбокае-горад і Беразвечча. Кожны мае сваю дату, то мо ўжо і трэба рыхтавацца да 650-годдзя Беразвечча?**

**На святкаванне прыехалі шматлікія госці, былі заўважаныя на флагштоках сцягі: латвійскі, нямецкі, расійскі, грузінскі, малдаўскі, польскі, літоўскі. Прадстаўнікі гэтых краін выступілі са сваімі канцэртнымі і тэатралізаванымі праграмамі на галоўнай сцэне свята.**

**Зразумела, на свята прыехалі і жыхары з розных месцаў нашай краіны. Многія былі ўражаныя да глыбіні душы горадам, аб якім мо й чулі, але ні разу ў ім не былі. Чысты, утульны, прыгожы, дагледжаны, са шматлікімі помнікамі гісторыі і культуры. Некаторыя, нават і не падазравалі, што старадаўняя “Пагоня” ў Глыбокім – паўсюль: на абвестках, Дошках гонару, сцягах. – *А что это за флаг такой у вас?*– пыталіся прыезджыя нават у аўтара гэтага фотаздымка. – Наш, абласны, з “Пагоняй”!– тлумачу. А многіх прыезджых расчуліла шматлікая прысутнасць беларускай мовы на афіцыйных мерапрыемствах. – *І гэта ў вас, у Глыбокім, заўсёды? Нават праваслаўныя святары так цудоўна прамаўляюць па-беларуску!*– пытае Алена Сцяпанава, журналістка з Віцебска. – Ну, дык, гэта ж Глыбокае!– кажу,– а не Віцебск!**

**Мы яшчэ не аднойчы на старонках нашай газеты вернемся да тэмы 600-годдзя Глыбокага, як гісторыі, так і святкавання гэтага юбілею – вельмі дэталёва і па кожнай асобнай тэме.** Уладзімір Скрабатун. *Чытайце новыя артыкулы па гісторыі Глыбокага на стар. 4 і 5.*

## Прыём прыватных абвестак_ №166



## МНС інфармуе
**на 08.07.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 589;
Гібель людзей – 66, з іх 2 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 24;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 494.87 млн. руб.

## Віцебскі раён

# Упрыгожыў абласны цэнтр

■ Станіслаў Раманчук

**Яшчэ 4 гады назад у кіраўніцтва вобласці з'явілася ідэя ўвекавечыць памяць пра славутага віцебскага князя Альгерда, які шмат зрабіў для ўмацавання і росквіту старажытнага Віцебска.**

Аднак адразу супраць узвядзення помніка падняліся мясцовыя псеўдапатрыёты прарасійскай арыентацыі. Яны сталі пісаць калектыўныя пісьмы-кляўзы ў розныя інстанцыі, што нельга ставіць манумент у гонар нібыта ворага праваслаўя і Маскоўскага княства. Страсці вакол помніка сціхлі толькі тады, калі А. Лукашэнка, не называючы імён, публічна параўнаў іх з дыверсантамі. У выніку падчас нядаўніх урачыстасцей з нагоды 1040-годдзя абласнога цэнтра велічны конны помнік вышынёй амаль 4 метры ўпрыгожыў тэрыторыю былога Верхняга замка ў самым цэнтры горада. Велічны манумент выдатнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага за кароткі час вырабіў сталічны скульптар Сяргей Бандарэнка, а адліў помнік коштам 1,5 млрд. рублёў на заводзе "Тэхналіт Полацк". У свой час князь Альгерд ажаніўся на віцяблянцы, абнёс горад каменнай сцяной, прынёс спакой і росквіт на мясцовыя землі. Адкрывалі скульптуру Альгерда верхам на кані з сокалам у руцэ на пастаменце вышынёй 2,8 метры ў прысутнасці шматлікіх гараджан і гасцей урачыстасцей, пад мелодыю звонаў аднаўленай царквы. Такі манумент, толькі чацвёрты па ліку ў Беларусі, робіць гонар Віцебску і ягонай гісторыі, паколькі ў старажытнасці наш край быў адным з самых магутных і развітых у тагачаснай Усходняй Еўропе. Пры Альгердзе, які правіў у 1345-1377 гадах, сталі актыўна развівацца і іншыя беларускія гарады "Чорнай і Белай Русі". Гэты князь з войскам у бітве на Сініх Водах разбіў татарскае войска, пры ім межы Вялікага княства, саюзніка Польшчы ахоплівалі ўсю Украіну, дасягалі да Вязьмы, Курска і Чорнага мора.

## Талачынскі раён

# Кошт жыцця – бутэлька

■ Чэслаў Якубовіч

**Аб тым, што многія беларусы занадта шмат п'юць, вядома даўно, як і тое, што гэта ганебная звычка ламае жыццё ў любым узросце.**

Не думаў пажылы адзінокі пенсіянер з райцэнтра Талачын, што на схіле гадоў яму прыйдзецца адправіцца дажываць свой век за кратамі. Аднак днямі суд пакараў пажылога чалавека на 9 гадоў пазбаўлення волі за наўмыснае забойства. Гэта гісторыя пачалася некалькі гадоў назад, калі гараджанін пазнаёміўся і нават пасябраваў з такім жа адзінокім мужчынам, які пазбавіўся ўласнага жылля. Талачынскі пенсіянер неўзабаве запрасіў яго жыць да сябе, бо разам лягчэй весці дамашнюю гаспадарку. Спачатку ў іх, сапраўды, усё было добра, дапамагалі адзін аднаму, ладзілі, а пры пэўных падставах і арганізоўвалі сямейныя застоллі, выпівалі па чарцы-другой. І так бы працягвалася іх ціхае жыццё, каб не прыкры выпадак. Аднойчы гаспадар хаты заўважыў, што некуды прапала яго купленая пра запас бутэлька віна. Аднак госць-сусед кляўся, бажыўся, што яе не чапаў. На самой справе бутэльку віна ён выпіў адзін, а пустую тару, нібыта насміхаючыся над сваім новым сябрам, схаваў пад падушкай на ягоным ложку. Вось такую абразу жыхар не перанёс, затаіў на крыўдзіцеля злобу. Неўзабаве, як расказвалася потым на судовым пасяджэнні, калі злодзей-выпівоха лёг спаць, пакрыўджаны пенсіянер пайшоў на смяртэльны грэх. Ён нанёс дакладны ўдар нажом у сэрца, і мужчына імгненна памёр. Пенсіянер –забойца выцер нож, паклаў яго ў кішэню, пагуляў па гораду, а потым вярнуўся дамоў і лёг спаць. Толькі раніцай ён усвядоміў, што нарабіў, выклікаў нават "хуткую дапамогу", але ўжо нічога нельга было перамяніць. Нават у пажылым узросце за свае паводзіны трэба адказваць, а даражэй жыцця нічога не можа быць. і нават скрыня самага дарагога напоя, не кажучы ўжо пра звычайную бутэльку таннага ў нас віна.

## Пастаўскі раён

# Музей пашырыў плошчы

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад іншых гарадоў глыбінкі, Паставы моцна не пацярпелі ў гады ваенных ліхалеццяў і захавалі багатую архітэктурную спадчыну.** У райцэнтры добра захавалася шэраг будынкаў старажытнай плошчы XVIII стагоддзя, пабудаванай італьянскім архітэктарам Саккі. Сёлета падчас міжнароднага фестывалю народнай музыкі ў горадзе ўрачыста адкрыўся філіял раённага краязнаўчага музея ў вядомым многім турыстам Палацы рода Тызенгаўзаў. Менавіта дзякуючы свяру мастацтваў у выніку супрацоўніцтва пастаўчан са сваімі пабрацімамі з літоўскага горада-пабраціма Рокішкіса ўдалося за некалькі гадоў зрабіць добрую справу. З раённага бюджэту пайшло толькі 10 % сродкаў на рамонт падвальных памяшканняў Палаца і стварэнне музейнай экспазіцыі, амаль 400 тысяч еўра склаў грант Еўрасаюза на значны праект па захаванні культурна-гістарычнай спадчыны двух суседніх народаў. Для супрацоўнікаў музея ў райцэнтры і пастаўчан такая падзея стала вельмі значнай, удалося сабраць шмат экспанатаў для цікавейшай экспазіцыі. Раздзел музея, прысвечаны падзеям Першай сусветнай вайны, увогуле стаў самым багатым па змесце ў вобласці. У адным з залаў можна пабачыць адноўлены пакой славутай арніталагічнай майстэрні графа Канстанціна Тызенгаўза з воскавымі фігурамі яго самога, жонкі і майстра-прэпаратара. З цікавасцю наведвальнікі музея цяпер любуюцца і выставай жывапісу, з экспазіцыяй пра летнія лагеры Санкт-Пецербургскай афіцэрскай кавалерыйскай школы, пра якую захаваўся дакументальны фільм, зняты ў 1907 годзе.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 10.07.14 | | | | Пятніца 11.07.14 | | | | Субота 12.07.14 | | | | Нядзеля 13.07.14 | | | | Пн.14.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +17 | +21 | +24 | +19 | +15 | +16 | +19 | +18 | +16 | +16 | +24 | +24 | +21 | +21 | +22 | +22 | +19 | +19 | +23 |
| Ціск | 745 | 745 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 747 | 745 | 743 | 742 | 742 | 742 | 742 | 743 | 743 | 743 | 743 | 743 |
| Вільготнасць | 78 | 69 | 49 | 69 | 75 | 67 | 53 | 59 | 73 | 93 | 66 | 64 | 79 | 86 | 82 | 83 | 84 | 89 | 77 |
| Вецер м/сек | 3 У | 3 Пн-У | 7 Пн-У | 7 Пн-У | 7 Пн-У | 7 У | 10 У | 7 У | 7 У | 7 У | 11 Пд-У | 8 Пд-У | 5 Пд-У | 1 Пд | 2 Пн | 1 Пн | 1 Пн | 3 Пн | 2 Пн |

# Аб самым надзённым

## АДРАЗУ ТРЫ ПОСТСАВЕЦКІЯ КРАІНЫ ПАДПІСАЛІ ПАГАДНЕННЕ АБ АСАЦЫЯЦЫІ І СВАБОДНЫМ ГАНДЛІ З ЕЎРАСАЮЗАМ

■ Аляксандр Цішкевіч

**А вось галоўная навіна апошніх дзён, якая парадавала: урад Беларусі ў апошні момант перадумаў разгрузіць перапоўненыя склады дзіўным спасабам абмежавання імпарту аналагічных імпартных тавараў.**

Першы месяц лета запомніўся сёлета не толькі цікавымі футбольнымі баталіямі на праходзячым у Бразіліі чэмпіянаце свету па футболе, да якога была прыцягнута ўвага ўсяго чалавецтва. Многія беларусы па даўняй традыцыі падтрымлівалі і перажывалі ля тэлеэкранаў пераважна за сваіх суседзяў, зборную Расіі. Здавалася, што руская ўсё мае: не толькі нафту з газам, але і шмат грошай на самага дарагога трэнера-італьянца, цяпер узялся за сваю армію, як могуць усяляк шкодзяць ва Украіне, але іх футбалісты не змаглі зноў выйсці нават з самай слабай па складу групы.

Аднак не гэта няўдача на стадыёне стала для нашых суседзяў на ўсходзе галоўным геапалітычным паражэннем у гэтым годзе. Напэўна, у Крамлі былі моцна незадаволены, калі ў будынку Савета Еўрасаюза ў Брусселі днямі адразу тры былыя савецкія рэспублікі Грузія і Малдова ўслед за Украінай падпісалі пагадненне аб асацыяцыі з ЕС і ўваходжанні ў зону свабоднага гандлю садружнасці самых развітых дзяржаў кантынента. Перад гэтым дарадца расійскага прэзідэнта, адыёзны прафесар С. Глаз'еў у злобе назваў новага ўкраінскага лідара П. Парашэнку нават "нацыстам", што толькі пацвярджае імперскае стаўленне многіх дзеячаў РФ.

У Маскве і раней усяляк супраціўляліся, каб "малодшыя браты" вялікаруса выходзілі з-пад яго ўплыву, цяпер крытыкуюць гэтыя пагадненні і пагражаюць украінцам, грузінам і малдаванам чарговымі эканамічнымі карамі. Слава Богу, у беларускага МЗС хапіла розуму заявіць, што суверэннае права той жа Украіны вызначаць сабе далейшы курс развіцця. Нягледзячы на гэты жэст, расійскі дзяржаўны ВТБ банк выдзеліў Беларусі такі неабходны, але не вельмі выгадны брыдж-крэдыт пад вялікія працэнты ў суме 2 млрд. долараў. Палова гэтых сродкаў будзе скарыстана на пагашэнне нашых дзяржаўных пазык у наступным годзе.

Наша краіна па-ранейшым перажывае пэўныя эканамічныя цяжкасці, бо сёлета з пачатку года ў студзені-маі падзенне прамысловай вытворчасці склала 1,3 %. Яшчэ горш спрацавалі беларускія аграрыі, прадукцыя сельскай гаспадаркі за 5 месяцаў знізілася на 4,3 % у параўнанні з мінулым годам. У адрозненне ад тых жа ўкраінцаў, мы, а дакладней вышэйшае кіраўніцтва Беларусі, выбралі іншы геапалітычны курс на ўсход і далей у Азію, дзе даміную тая ж Расія. Аднак што яна сабой цяпер уяўляе? Дасведчаныя эканамісты гавораць, што рускім спатрэбіцца гадоў 30, каб дагнаць па ўзроўні цывілізацыйнага развіцця тую ж Партугалію, не самую багатую на еўрапейскім кантыненце.

А што тады гаварыць пра нас, калі цяпер ад Мінска да ўскраін урадам ставіцца задача жорстка збалансаваць і кантраляваць дзяржбюджэт па расходах. Усё болей відавочна, што грошай у казне меней, прыходзіцца жыць па сродках, эканоміць. І невыпадкова беларускі лідар прама кажа, што не будзем болей узводзіць Лядовыя палацы і іншыя аб'екты сацыяльнай сферы. Таму дзяржава стане болей укладваць сродкаў у вытворчасць, асабліва туды, дзе можна зарабіць хоць колькі валюты. Увогуле сітуацыя ў нас не самая спрыяльная, калі разглядам стану спраў займаліся на пасяджэнні Савета бяспекі, пра што было паведамлена вельмі сцісла.

А вось нашы ваенныя перспектывы сталі болей відавочныя, паколькі паслухмяныя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў напрыканцы чэрвеня прынялі папраўкі ў Закон "Аб ваенным становішчы". Упершыню там прапісана, што беларусы павінны аўтаматычна падтрымаць сваёй арміяй саюзнікаў – Расію і іншых членаў арганізацыі АДКБ у выпадку знешняй агрэсіі на каго-небудзь з іх. Пачнецца нейкая заварушка ў далёкім Кыргыстане, альбо не дай Бог ваенныя дзеянні на расійска-ўкраінскай мяжы, гэта будзе лічыцца нападзеннем на Рэспубліку Беларусь. Каменданцкі час, цэнзуру, прэвентыўныя арышты сярод беларусаў могуць увесці і калі ўзнікне патэнцыйная пагроза канстытуцыйнаму ладу Беларусі, калі з'явіцца свае Майданы, што зусім малаверагодна.

З іншага боку да нас не так ужо і імкнуцца трапіць жыць у спакойнай сінявокай. Вось з пачатку года толькі 65 украінцаў падалі заявы аб прадастаўленні ім статусу ўцекачоў, калі ў Расіі іх лік вымяраецца дзясяткамі тысяч. Пакуль у нашай краіне няма грошай нават на будаўніцтва амбіцыйнага Кітайска-беларускага індустрыяльнага парку ў Смалявіцкім раёне. А вось галоўная навіна апошніх дзён, якая парадавала: урад Беларусі ў апошні момант перадумаў разгрузіць перапоўненыя склады дзіўным спасабам абмежавання імпарту аналагічных імпартных тавараў. Аднак спажыўцам расслабляцца рана, бо гучаць заявы ўплывовых чыноўнікаў, што яны падрыхтоўваюцца зрабіць больш жорсткімі ўмовы завозу ў Беларусь тавараў з-за мяжы.

## Дзень за днём

**З улікам інфляцыі сярэднямесячны даход беларусаў без падаткаў скароціўся да 427 USD. Урад Беларусі пайшоў у новую атаку на бізнес і ледзь не вырашыў абмежаваць імпарт тавараў, аднак будзе прыпынена ўзвядзенне аб'ектаў сацыяльнай сферы. Дэпутаты зацвердзілі папраўкі ў Закон "Аб ваенным становішчы". Беларускім юнакам, якія ўхіліліся ад прызыву ў армію, абмяжуюць выезд за граніцу. Беларускія дыпламаты жадаюць ездзіць у Еўропу без віз, як высветлілася ў ходзе перамоў з ЕС. У краіне афіцыйна практычна ніяк не адзначылі 90-гадовы юбілей самага вядомага ў свеце беларускага пісьменніка Васіля Быкава.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Еўракамісар па энергетыцы Г. Этцінгер заявіў, што ЕС адновіць будаўніцтва газаправода "Паўднёвы паток", калі Расія не будзе ўласнікам трубы на тэрыторыі ЕС.

**Украіна.** Прэм'ер-міністр А. Яцэнюк прапанаваў стварыць адзінага аператара ўкраінскай газатранспартнай сістэмы з удзелам інвестараў з ЗША і ЕС, гэта спыніць амбіцыі Расіі.

**Аўстралія.** Урад краіны далучыўся да санкцый супраць Расіі і ўвёў візавыя абмежаванні для 50 уплывовых расійскіх чыноўнікаў і бізнесменаў і яшчэ 11 банкаў і кампаній РФ.

**Ліхтэнштэйн.** Генпракуратура княства заблакіравала 1,3 млрд. USD, знойдзеных на рахунках беглага прэзідэнта Украіны і 20 яго прыбліжаных, якія хаваюцца ў Расіі.

**Турцыя.** Суд Анкары прыгаварыў да пажыццёвага зняволення 96-гадовага экс-прэзідэнта генерала К. Эўрэна за арганізацыю крывавага ваеннага перавароту і захоп ўлады ў 1980 г.

**Польшча.** Глава ўрада Дональд Туск адмовіўся сыходзіць у адстаўку, нягледзячы на крызіс, звязаны з праслухоўваннем тэлефонных размоў вышэйшых чыноўнікаў краіны.

**Швейцарыя.** На 26-й сесіі па правах чалавека спецдакладчык ААН М. Харашці заявіў аб сістэматычных і сур'ёзных парушэннях дэмакратычных норм у Беларусі ўжо 15 год.

**Нігерыя.** Каля ста вясковых жыхароў патанулі, ратуючыся ад ісламісцкіх баевікоў у аддаленым раёне на паўночным усходзе краіны, там ідуць міжэтнічныя сутыкненні.

**Англія.** Вучоныя Каралеўскага медкаледжа распрацавалі новы спосаб лячэння карыесу зубоў без пломб і бармашыны шляхам рэмінералізацыі, так можна і адбеліваць зубы.

**ЗША.** Кампанія Amazon прадставіла ў Сіэтле сваю навінку – смартфон з 3D – дысплеем 4,7 дзюймы без прымянення спецакуляраў і з двума гігабайтамі аператыўнай памяці.

**Іспанія.** Пасля адстаўкі бацькі 46-гадовы прынц Феліпе дэ Бурбон афіцыйна стаў новым каралём краіны, ён атрымаў добрую адукацыю, прайшоў ваенную падрыхтоўку.

**Германія.** Зпячоры ў Альпах глыбінёй 1 км паднялі параненага 52-гадовага вучонага-спелеолага, яго ратавалі паўмесяца амаль 700 спецыялістаў з розных краін Еўрасаюза.

**В'етнам.** Самым танным сёлета летам горадам свету для турыстаў прызналі сталіцу краіны Ханой, у Еўропе найтанней адпачыць можна ў Сафіі, Празе і ў Будапешце.

**Расія.** Знакаміты пісьменнік Барыс Акунін параўнаў краіну з пераемніцай "Залатой Арды" і заявіў, што У. Пуцін закончыць сваю кар'еру вельмі дрэнна з-за хлусні і законаў тайгі.

**Украіна.** З-за ваенных дзеянняў баевікоў у Данбасе ў наступным сезоне данецкі ХК "Данбас" не згуляе ў КХЛ, краіна не правядзе і чэмпіянат Еўропы-2015 па баскетболе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** А. Лукашэнка папярэдзіў аб магчымай маштабнай ратацыі кадраў – ад урада да кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў, там дзе ёсць дрэнныя вынікі іх дзейнасці.

**Мінск.** Увядзенне абмежаванняў на ўвоз імпартных тавараў, як заявіў эканаміст Леў Марголін, не прывядзе да росту продаж беларускай прадукцыі, а людзі прайграюць.

**Чачэрск.** Падчас рабочай паездкі А. Лукашэнка заявіў, што дзяржава будзе падтрымліваць толькі паспяховыя сельгаспрадпрыемствы, але крэдыты трэба вярнуць не пазней за 8 год.

**Смалявічы.** Першым рэзідэнтам ствараемага ля вёскі Быкачына Кітайска-беларускага парка стане кітайская кампанія тэлекамунікацый, тэрміналаў і сістэм Huawei.

**Мінск.** Да канца года айчынныя і нямецкія эксперты, як заявіла навуковы дырэктар ІЦ ІПМ І. Тачыцкая, чакаюць плаўнае паніжэнне курсу рубля да 11 тысяч за 1 USD.

**Іўе.** Па падазрэнні ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі арыштавалі старшыню райвыканкама, ён 125 млн. рублёў дзяржсродкаў патраціў на ўласнае жыллё.

**Кобрын**. Аблпракуратура распачала крымінальную справу супраць былога начальніка райсельгасхарча, які загадваў калгасам рабіць прыпіскі, замоўчваць затрымкі заробкаў.

**Мінск.** Намеснік міністра ЖКГ Беларусі А. Шагун запэўніў, што пераход на поўную аплату вады і каналізацыі не выкліча рэзкі рост тарыфаў, з 2015 г. 100 % аплата газу, святу

**Гродна.** Да 2-х год абмежавання волі пагражае 20-гадоваму кіроўцу, які купіў падробныя дакументы на правы язды ў Расіі і ездзіў за рулём пасля пазбаўлення правоў за п'янку.

**Брэст.** На адной з вуліц горада міліцыя знайшла ў аўто жыхара Кобрына і канфіскавала 470 кг сала без дакументаў, пазней забрала яшчэ паўтоны ў гандляра-брэстчаніна.

**Мінск.** Анексаваны Расіяй Крым, як заявіла галоўны рэдактар газеты "Туризм и Отдых" Лілія Кобзік, стаў мёртвым для беларускіх турыстаў, туды едуць лічаныя людзі.

**Гомель.** Улады Беларусі дазволілі украінцам з прыгранічных паселішчаў у спрошчаным парадку перасякаць граніцу, збіраць ягады і грыбы ў беларускіх лясах па суседстве.

**Нясвіж.** На некалькіх пляцоўках замка Радзівілаў, у гарадской ратушы і ў касцёле Божага Цела пачаўся фестываль "Балетнае лета ў Вялікім тэатры", які прадоўжыцца ў Мінску.

**Ждановічы.** У былым загарадным доме паблізу сталіцы адкрыўся музей-дача народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, ён будзе адкрыты сезонна з мая да кастрычніка.

**Жодзіна.** Толькі мінскае "Дынама", барысаўскі БАТЭ, як прызнаўся дырэктар мясцовага ФК "Тарпеда-БелАЗ" М. Хлус, не маюць сёлета праблем з фінансамі і з выплатамі ігракам.

## Беларусы змогуць рэгістраваць нерухомасць праз інтэрнэт



■ Святлана Панамарова

**У Беларусі можна будзе зарэгістраваць нерухомасць дыстанцыйна, прычым зрабіць гэта ў самыя кароткія тэрміны.**

Згодна з праектам праграмы развіцця сістэмы дзяржрэгістрацыі нерухомай маёмасці і правоў на яго, а таксама здзелак з ім, разлічанай на 2014-2018 гады, для ўвядзення Адзінага дзяржаўнага рэгістра нерухомасці не спатрэбіцца дадатковага часу, яно будзе выраблацца ў рэальным часе. На дадзены момант гэтая працэдура займае аж да 24 гадзін. Усе неабходныя дакументы можна будзе падаць па прынцыпе «аднаго акна» ў электроннай форме. Пры гэтым дзяржрэгістрацыя па некаторых аб'ектах будзе ажыццяўляцца ў тэрмін да 1 гадзіны.

У рамках стварэння ў рэспубліцы «электроннага ўрада» плануецца пашырыць функцыянальныя магчымасці сістэмы дзяржрэгістрацыі нерухомасці і колькасці прадстаўляюцца дыстанцыйна паслуг. Мяркуецца, што гэта дасць магчымасць павысіць празрыстасць дзелавых працэсаў на нацыянальным рынку нерухомасці, а таксама інвестыцыйную прывабнасць краіны. У сістэму дзяржрэгістрацыі будуць уключаны функцыі рэгістрацыі правоў арэнды капітальных пабудоў, правоў будаўніцтва, уліку дакументаў па тэрытарыяльным планаванні і некаторых іншых.

## Карункавая бялізна з 1 ліпеня не знікне з прылаўкаў краін Мытнага саюза

■ nn.by

**Пераходны перыяд па ўводу ў дзеянне тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы і Пераходны перыяд па ўводу ў дзеянне тэхнічнага рэгламенту Мытнагасаюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці» завяршаецца 1 ліпеня.**

«Гэты тэхрэгламент не забараняе вытворчасці, увозу і продажу ў Мытным саюзе карункавай бялізны з сінтэтычных тканін, — заявіў карэспандэнту БелТА прадстаўнік прэс-службы Еўразійскай эканамічнай камісіі (ЕЭК). Тэхрэгламент уводзіць патрабаванні бяспекі да прадукцыі лёгкай прамысловасці, у тым ліку ніжняй бялізны, паказчык гіграскапічнасці якой не павінен быць ніжэй за 6%».

Гэтае патрабаванне ў аднасінах да ніжняй бялізны ўжо працяглы час прынятае на нацыянальным узроўні ва ўсіх краінах — удзельніцах МС.

Прадстаўнік ЕЭК дадаў, што ў Мытным саюзе не плануецца ўводзіць забарону на абутак на высокім абцасе і кеды: падобная ініцыятыва аднаго з расійскіх дэпутатаў надаўна шырока абмяркоўвалася ў СМІ.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Амаль 10 тысяч ветэранаў вайны і прыраўняных да іх асоб акрамя юбілейных медалёў атрымалі па вобласці звыш 3 млрд. рублёў аднаразавай матэрыяльнай дапамогі.

**Гарадок.** Сесія аблсавета дэпутатаў вырашыла пабудаваць у аграгарадку Быхыха першы ў вобласці Дом міласэрнасці для пражывання пажылых інвалідаў, цяжка хворых старых.

**Мёры.** Дырэктар фірмы "ММПЗ-груп" Сяргей Чабуранаў паабяцаў, што праз паўтара-два гады пачнуцца пусканаладачныя работы на новым заводзе па вытворчасці белай бляхі.

**Віцебск.** Былы глава вобласці, цяпер спікер парламента У. Андрэйчанка, як паведамілі СМІ, прыватызаваў кватэру-апартаменты ў элітным доме ў Драздах коштам 400 тысяч $.

**Білёва.** У аднайменным мікараёне абласнога цэнтра УП "Фармацыя" адкрыла новую аптэку, пашырэнне аптэчнай сеткі плануецца таксама ў Браслаўе і ў Глыбокім.

**Полацк.** Сумесная рабочай група Беларускай і Латвійскай чыгунак пачала працу па электрыфікацыі накірунку Полацк-Даўгаўпілс, зараз вырашаюцца пытанні фінансавання.

**Глыбокае.** На базе мясцовага райпо прайшоў абласны галіновы семінар, якім кіраваў старшыня Белспажыўсаюза В. Іваноў, у развіццё гандлю РПС уклаў за 5 год 25,5 млрд.

**Віцебск**. Медыцынскіх работнікаў вобласці папрасілі пералічыць частку свайго дзённага заробку на закупку для абласнога анкалагічнага дыспансера патрэбнага медабсталявання.

**Лепель.** Пасля капітальнага рамонту падчас выязнога пасяджэння прэзідыума аблсавета дэпутатаў адкрылі будынак Дамжарыцкага сельсавета, тут з'явіўся КУП бытавых паслуг.

**Віцебск.** Адкрыты зімой у цэнтры горада доўгабудпадземны пераход да Летняга амфітэатра прыйшлося закрыць на рамонт з-за працякання па сценах грунтовых вод.

**Дубровна.** Калектывы і артысты з 9 краін Еўропы прынялі ўдзел у Міжнародным фестывалі песні і музыкі "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне", адкрылася алея 10 Герояў.

**Паставы.** Суседка пачула пах дыму ў інтэрнаце будфірмы "Рассвет Пастаўскі", выклікала пажарных, што і выратавала жыццё 47-гадоваму выпівоху, які закурыў і ўстроіў пажар.

**Орша.** Трагічна загінуў 40-гадовы калгасны слесар вечарам у вёсцы Крапіўна, на якога ўпаў і заціснуў у двары ўласнага дома ў яме вялізны камень-валун вагой каля 2-х тон.

**Глыбокае.** Да 600-годдзя горада на азёрным востраве паблізу мясцовай калоніі ўстанавілі хрысціянскі крыж Еўфрасінні Полацкай, каб не пакрыўдзіць ні адну з канфесій.

**Віцебск.** Суд Чыгуначнага раёна прыгаварыў 31-гадовага жыхара абласнога цэнтра да 3-х месяцаў арышту, ён на падпітку паведаміў аб нібыта замініраванні чыгуначнага вакзала.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

600

# Глыбокае: невядомае пра вядомае альбо рэбусы гісторыі

**Распачынаем публікацыю серыі матэрыялаў па гісторыі паўднёва-заходняй часткі Глыбокага, якая ў шмат якіх старадаўніх дакументах названая – горад Глыбокае.**



■ Надзея Храпавіцкая

### Колькі гадоў Глыбокаму?

На першы погляд, дзіўнае пытанне. Шэсцьсот, бо сёлета мы святкуем 600-гадовы юбілей. Але гэта толькі здаецца такім простым.

Насамрэч дакладна невядома, калі ўтварылася першае паселішча, якое дало пачатак Глыбокаму. Паводле археолага Марата Клімава, паселішча верагодна існавала ўжо амаль тысячу гадоў таму, што пацвярджаецца знаходкамі керамічнага посуду XI—XIII стст. каля возера Кагальнага.

600-годдзе, якое мы адзначаем, – гэта юбілей першай згадкі назвы "Глыбокае" ў пісьмовых дакументах. У 1414 годзе вялікі князь літоўскі Вітаўт выдаў Зенаву Братошычу, продку Зяновічаў, пацвярджальны прывілей на *"землі між Глыбокім і Паповічамі"*. Наступны раз назва Глыбокае сустракаецца ў пісьмовых крыніцах роўна праз стагоддзе: у 1514 г. адбываецца судовы працэс паміж уладальнікам Верхняга Мікалаем Радзівілам і ўладальнікам Глыбокага Юрыем Зяновічам.

### Колькі было Глыбокіх?

У гістарычных кнігах і атрыкулах мы чытаем, што насамрэч Глыбокіх было два. Прычым гэтыя два паселішчы: а) належалі розным уладальнікам; б) адносіліся да розных адміністрацыйных адзінак – Полацкага ваяводства і Ашмянскага павета Віленскага ваяводства; в) іх насельніцтва належала да розных прыходаў. Сітуацыя заблытваецца…

Гэта, напрыклад, калі мы ўявім сабе, што адна частка сучаснага Глыбокага (з возерам Кагальным, універмагам, "белым домам", рынкам, МКК) належыць да Ашмянскага раёна, а іншая частка – з царквой, касцёлам, Копцеўкай, вул. Савецкай – да Полацкага. І мяжа паміж гэтымі раёнамі праходзіць па рэчцы, што цячэ каля пошты. І што тыя, хто жыве ў першай з частак, плацяць падаткі і працуюць на аднаго гаспадара, а тыя, хто жыве ў другой палове – на іншага гаспадара. І што існуе большая верагоднасць, што вы ажэніцеся ці выйдзеце замуж унутры "сваёй" часткі Глыбокага, чым возьмеце шлюб з жыхаром "другой" часткі.

Існавала два маёнткі з аднолькавай назвай Глыбокае – адзін належаў Зяновічам, потым Радзівілам, пасля Вітгенштэйнам, а другім валодалі Корсакі, аж пакуль Юзаф Корсак не падараваў яго кляштару кармелітаў босых, а потым у часы Расійскай Імперыі маёмасць кляштара была канфіскаваная ў казну. Абодва ўладальнікі стварылі на мяжы сваіх маёнткаў па мястэчку – незалежна адзін ад аднаго і, магчыма, неаднайчасова. Так паўсталі два мястэчкі Глыбокія, падзеленыя мяжой-рэчкай. Мы можам ганарыцца, што ўтварэнне нашага горада адбылося такім унікальным чынам. З іншага боку, гэта стварае блытаніну: калі мы кажам пра Глыбокае, то пра якое з іх? Ці пра абодва адразу?

### Дзе пралягала мяжа паміж двума Глыбокімі?

Мяжа паміж маёнткамі, мястэчкамі – і адпаведна паміж ваяводствамі – склалася досыць натуральным чынам: пераважна па рэках і азёрах. Інвентар 1687 г. утрымлівае наступнае апісанне: пачынаецца граніца ад Беразвечча, *"пачаўшы ракой Беразвечам, якая дзеліць павет Ашмянскі з ваяводствам Полацкім і маёмасцю Глыбоцкай памёрлага ягамосці пана Ежы Мікалаевіча Зяновіча старосты Чачэрскага і Прапойскага ў возера вялікае пад Беразвечам і Глыбокім сумежна з вольным ловам рыбы доступам да таго возера, а з таго возера ў Глыбокае возера пад Дворам Глыбоцкім ягамосці пана старосты Чачэрскага, а з таго возера Глыбоцкага ў Крывое возера, а з таго возера ў Ярмоліна возера ручаём"*. Мяжа была нязменнай даволі працяглы час, у 1830 г. яна апісвалася ідэнтычна (толькі ў адваротным кірунку): *"Ад грунтоў Ластавіцкіх пачынаецца граніца ракой гранічнай з грунтамі Князёўны Радзівілаўны, аж да возера Крывога ўпадаючай. – З таго ж возера Крывога той самай выходзячай рэчкай аж да возера Паддворнага Глыбоцкага, з таго самага возера рэчкай аж да возера вялікага Беразвецкага і берагам таго самага возера аж да надбярэжнага капца"*. Гэтая мяжа была ад даўных часоў забяспечаная і апісаная. Нават у 1880 г. адзначалася, што Глыбокае *"як бы складаецца з двух неаднолькавага памеру мястэчак, падзеленых рэчкай, якая ўпадае ў возера"*. Такім чынам бачым, што і ў другой палове XIX ст. падзел Глыбокага на дзве часткі яшчэ выразна ўсведамляўся. Мяжа паміж двума мястэчкамі Глыбокімі адлюстраваная на малюнках.

### Аднаўленне справядлівасці

Звярніце ўвагу: паселішча, якое існавала на тэрыторыі Глыбокага амаль тысячу гадоў таму, размяшчалася на беразе возера Кагальнага – у той частцы, якая потым належала Зяновічам/Радзівілам (назавем гэтую частку ўмоўна паўднёва-заходняе Глыбокае). Таксама менавіта дзякуючы Зяновічам мы маем першую пісьмовую згадку назвы "Глыбокае" 600 гадоў таму. І зноў жа дзякуючы Зяновічавым падданым, якія пяць стагоддзяў таму напалі на людзей Радзівіла, мы ведаем пра тое, што Глыбокае ўжо мела рынак (торг), а значыць было мястэчкам.

Аднак парадаксальным чынам пра паўднёва-заходняе Глыбокае мы ведаем менш, чым пра Глыбокае кармеліцкае, знакамітае сваім багатым кляштарам. Звычайна распавядаюць пра істотную ролю глыбоцкага кляштара, пра тое, што ў ім спыняўся Напалеон альбо праводзіў допыты паўстанцаў Мураўёў і г.д. А жыццё звычайных жыхароў застаецца нібыта "ў ценю кляштара".

Таму – каб выправіць гэтую несправядлівасць і каб аддаць даніну павагі тым, дзякуючы каму мы можам налічыць Глыбокаму ажно 600 гадоў (а ў рэальнасці, відавочна, і болей) – мы прысвецім гэты цыкл артыкулаў паўднёва-заходнім частцы цяперашняга Глыбокага, якая належала Зяновічам, пасля Радзівілам, потым Вітгенштэйнам. На цяперашняй мапе горада гэта тэрыторыя, размешчаная за рэчкай-мяжой: возера Кагальнае, цэнтральны пляц, сучасныя вуліцы Маскоўская, Кірава, Энгельса і частка вуліцы Леніна, пачынаючы ад рэчкі.




**Глыбокае на мапе часоў Вялікага Княства Літоўскага. Звяртае ўвагу надпіс "Glybokie" (Глыбоке). За аснову ўзята беларускамоўнае гучанне, а не польскае, як на пазнейшых мапах.**

**Ва ўяўленні тагачасных картографаў – Глыбокае і Пліса (Plysa) ляжалі на беразе нейкага велічэзнага возера, якому і Нарач няроўня, лужына. Хаця, дзеля справядлівасці, заўважым, Бяглец, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае і Мушкат – у даўнія часы, насамрэч, былі адным вялікім возерам, але яно ніяк не даходзіла да Плісы і тым больш да Бабынічаў (Bobynicko).**

*Фрагмент мапы Полацкага ваяводства ВКЛ.*

### Што такое мястэчка?

У сучаснай Беларусі афіцыйна не існуе такой формы паселішчаў, як "мястэчка", але даўней, у часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай, іх было на нашых землях больш за 300. Мястэчка – гэта населены пункт, прамежкавы паміж вёскай і горадам. У адрозненне ад вёскі, большая частка насельніцтва мястэчак займаецца рамёствамі і гандлем, мястэчка мае большую культурную і адміністрацыйную значнасць, больш складаную планіроўку і забудову; абавязкова павінна быць рынкавая плошча, дзе адбываецца гандаль. Пра існаванне рынка ў Глыбокім вядома ўжо ад 1514 г., гэта значыць яно ўжо было мястэчкам. Большасць мястэчак на нашых землях былі прыватнаўласніцкімі: іх стваралі і імі ўладарылі памешчыкі-ўладальнікі маёнткаў – як мы і бачым на прыкладзе Глыбокага.

Мястэчкі вылучаліся складам насельніцтва (акрамя хрысціян, у іх жыла значная колькасць яўрэяў), адметнай культурай і каларытам. У Савецкім Саюзе больш развітыя і вялікія мястэчкі атрымалі статус гарадоў (як Глыбокае), іншыя ж былі ператвораныя ў вёскі (напрыклад, Лужкі, Празарокі, Галубічы, Германавічы ды інш.).

*Працяг будзе.*







Глыбокае (Hluboki) на сярэднявечнай мапе Еўропы. Вышэй – Полацк (Poloczko). Побач з Глыбокім надпіс "Lithvania", г.зн. "Літва". На мапе (правей і ніжэй Глыбокага) адзначаны – "Smolensk" (Смаленск). Так, спадарства, Смаленск адзначаны як літоўскі горад! У сённяшнім разуменні – беларускім!

Дарэчы, а што з Крымам (ён трапляе на мапу)? Чытаем – "Taurica" (Таўрыда)! І ніякі ён не рускі!

Злева – фрагмент мапы часткі Еўропы. Справа – павялічаная вынятка з мапы тэрыторыі, дзе адзначанае Глыбокае.

**Заўвага:** *Падбор ілюстрацый і каментары да іх – рэдакцыі "ВГ".*

# “Памятай, што ты Корсак!”

## Глыбоцкі касцёл зноў мае партрэт фундатара

**Нашчадкі роду Корсакаў у сувязі з 600-годдзем Глыбокага падаравалі глыбоцкаму касцёлу святой Тройцы партрэт фундатара Язэпа Корсака.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*



На святкаванне юбілею горада прыбыла дэлегацыя Корсакаў у складзе дзесяці чалавек. Калісьці прадстаўнікі гэтага роду валодалі ўсходняй часткай Глыбокага ды большай часткай паўночна-заходняй Беларусі. У XVII стагоддзі Язэп Корсак, будучы бяздзетным, завяшчаў сваю маёмасць на будаўніцтва храмаў, а таксама заснаваў кляштар кармелітаў у Глыбокім і базыльянаў у Беразвеччы. Такім чынам, дзякуючы яму паўсталі тры храмы ў Глыбокім і адзін у Вільні.

Да нашага часу ў Глыбокім захаваліся два храмы – парафіяльны касцёл і праваслаўны сабор. Храм у Беразвеччы быў разбураны савецкай уладай у 50-х гадах мінулага стагоддзя.

У парафіяльным касцёле да 1905 года захоўваўся партрэт фундатара, які быў прададзены ў прыватныя рукі, каб атрымаць грошы на перабудову касцёла, якая праводзілася ў той час. Апошні раз гэты твор бачылі ў 1935 годзе.

Фундатарамі стварэння аднаўленага партрэта фундатара выступіла сямейная пара з Варшавы Аляксандр і Аляксандра Корсакі. Паводле пана Аляксандра, на такі падарунак яго натхніла прачытанне кнігі Отана Гедэмана “Глыбокае”. Гэты даследчык у 1935 годзе пісаў: *“Партрэт ваяводы мсціслаўскага і старасты дзісненскага Юзафа Корсака, якому Глыбокае, безумоўна, павінна быць абавязана за тое, чым ёсць зараз, павінен вярнуцца – калі не ў арыгінале, то ў копіі; павінен знаходзіцца ў фундаваным ім касцёле, у магістраце і мясцовых культурна-грамадскіх установах.”*

***

Нам давялося пагутарыць з панам Аляксандрам.

**– Вы ўжо паглядзелі горад. Я ведаю, што ў касцёле вы былі. А ці былі вы ў праваслаўным саборы?**

– Былі і ў храме, і ў сутарэннях, і на вежы, нават на верталёце палёталі, каб лепш разгледзіць гэты прыгожы горад. Былі вельмі прыемна ўражаны гасціннасцю, з якой нас сустракалі, добрай падрыхтоўкай горада да 600-годдзя.

**– А адкуль ведаеце пра гісторыю горада. З кнігі Гедэмана? Бо ніхто лепш за яго не паказаў гісторыю гэтага месца.**

– Так, сапраўды лепш за Гедэмана ніхто пакуль не напісаў, але, напрыклад, што датычна кармелітаў, то няма лепшага спецыяліста як ксёндз Аляксандр Івашчонак. Шмат гадзін мы з ім тут размаўлялі пра гісторыю Глыбокага. Гедэмана ўжо няма, а ксёндз Аляксандр, дарэчы, ён таксама лётаў з намі на верталёце, – крыніца поўная энергіі, ведаў, інфармацыі.

**– А як вы вырашылі паехаць у Глыбокае?**

– Гэта думка з’явілася ў нас некалькі месяцаў таму. Першай іскрынкай, якая мяне на гэта натхніла, было прачытанне манаграфіі Отана Гедэмана “Глыбокае”. Там было напісана пра Язэпа Корсака, а перад усім, пра партрэт, якога няма, які знік пасля перабудовы касцёла. І вось гэта з’явілася штуршком, каб скантактавацца з глыбоцкай парафіяй. З яе пробашчам, якога я тады яшчэ не ведаў, бо зараз мы ўжо добра знаёмыя.

Ад таго часу пачаліся працы па аднаўленні партрэта фундатара. Шмат часу мы патрацілі на пошук крыніц, якія б апісвалі, як гэты касцёл раней выглядаў. Потым прыйшоў час на мастацкія працы.

Партрэт напісаў Пётр Валенскі, які спецыялізуецца на партрэтах з той эпохі. Я ўпэўнены, што гэта быў вельмі добры выбар, бо на партрэце відаць падабенства да арыгіналу. За ўзор была ўзята выява з “Тыгодніка ілюстраванага” за 1903 год. Гэты часопіс выдаваўся тады, як прынята зараз – шмат здымкаў і мала тэкстаў. І вось там быў артыкул пра Глыбокае, дзе быў змешчаны партрэт Корсака, а таксама здымак касцёла да перабудовы. Гэта было вельмі добрае супадзенне, і за колькі часу мы мелі ўжо гатовы партрэт, які зараз знаходзіцца ў касцёле святой Тройцы.

На ім ёсць некалькі зменаў у параўнанні з арыгіналам. Мы змясцілі тут выяву касцёла да перабудовы. Таксама знізу карціны змешчана падлога з пліткі, якая ўзята з сучаснага касцёла. Ёсць яшчэ некалькі дробных дэталяў, якія мастак дадаў у карціну, бо на здымку ў “Тыгодніку” іх немагчыма было разгледзіць. Таксама тут справа на калоне змешчаны герб Корсакаў, а ніжэй – подпіс мастака.

З тыльнага боку ёсць надпіс ад нас як ад фундатараў – ад мяне, ад жонкі Аляксандры, ад нашых дзяцей.

Гэты партрэт будзе таксама напамінкам турыстам, як гэты касцёл выглядаў раней, хто такі быў Язэп Корсак. Кожны, хто наведае касцёл святой Тройцы ў Глыбокім, зможа пабачыць, як выглядаў фундатар гэтага храма, сабора насупраць, царквы ў Беразвеччы.

**– А ці ведаеце вы, што ў Беластоку ёсць касцёл, які збудаваны як копія храму ў Беразвеччы?**

– Так, там ёсць касцёл, які падобны да беразвецкага храма. Але я не ведаю, якая была ідэя гэтага будаўніцтва.

***Тут у размову ўступае ксёндз Аляксандр Івашчонак, які падышоў перад тым.***

– Касцёл Пятра і Паўла ў Беразвечча – гэта пярліна віленскага барока. У 90-х гадах у Польшчы з’явілася ідэя пабудаваць у Беластоку, горадзе, які прыняў на сябе традыцыі Вільні, віленскай зямлі, якая знаходзіцца зараз за межамі Польшчы, копію гэтай пярліны. Праўда, гэта копія толькі знешняя, бо ў сярэдзіне выгляд у храма іншы. Зменены таксама і тытул касцёла. Ён носіць імя Змёртвыхпаўстання Пана, што сімвалічна, бо гэта таксама змёртвыхпаўстанне гэтай святыні, якая была разбурана.

**– А ці не з’яўлялася ідэя аднавіць гэты храм на ранейшым месцы – у Беразвечы?**

– Пан Міхал Корсак з жонкай заявілі пра такое жаданне, каб касцёл у Беразвечы быў адбудаваны. Бо гэта яшчэ і месца, дзе пахаваныя бацькі Язэпа Корсака.

З нагоды 600-годдзя Глыбокага Корсакі выказалі жаданне супольнай працы з уладамі горада. Гэта жаданне ёсць і з боку мясцовай улады. Мы размаўлялі на гэты конт са спадаром Алегам Морхатам, са спадарыняй Галінай Унуковіч. У іх ёсць вялікае жаданне да супольнай працы, але не ўсё ад іх залежыць. Бо тут зараз турма – а гэта пытанне ўзроўню кіраўніцтва краіны. Але, галоўнае, ёсць жаданне працаваць у гэтым накірунку.

***Мы працягваем размову з панам Аляксандрам Корсакам.***

**– Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра свой радавод?**

– Я тут са сваёй жонкай Аляксандрай, дзецьмі Казімірам і Францішкам. Род Корсакаў мае шмат адгалінаванняў. Мы прадстаўляем бабыніцкую лінію. Карані нашага роду з Полацка, які некалі быў вялікім і знакамітым горадам.Тут перасякаліся гандлёвыя шляхі, горад быў вельмі багаты. Адпаведна і роды, якія там жылі, з гэтага карысталіся.

Пасля вайны з Іванам Жахлівым, калі горад быў цалкам разбураны, а пасля вызвалены Сцяпанам Батурам, наша лінія перамясцілася з Полацку ў бок Глыбокага. І вось гэта лінія, як па нас відаць, да гэтай пары не згасла. Бо глыбоцкая лінія Корсакаў згасла – Язэп Корсак быў апошнім прадстаўніком гэтай лініі з мужчынскага боку.

Наша ж лінія перажыла ўсе ваенныя завірухі і гаспадарыла ў гэтых мясцінах да 1939 года. З нашай лініі найбольш знанай асобай быў Рафал Корсак, уніяцкі архімандрыт, потым мітрапаліт, які памёр у Рыме. Ён жыў у адзін час з Язэпам Корсакам. Былі таксама ў нашым родзе і полацкія суддзі, і іншыя знакамітыя асобы.

Наша генеалагічнае дрэва ёсць у Нацыянальным музеі ў Варшаве, я трымаю яго ў руках, там ёсць усе нашы продкі з іх тытуламі. Наш радавод можна адсачыць з XIV стагоддзя, ёсць усе імёны, празвішчы, хто за кім ішоў. Захавалася шмат дакументаў на гэты конт.

**– А вы ведалі пра свой род ад самага нараджэння?**

– Можа і не ад самага (*усміхаецца*), але з дзяцінства дакладна. У нашай сям’і заўсёды казалі: “Памятай, што ты Корсак!”. Бо трэба адчуваць адказнасць за прынятыя рашэнні, бо памылка можа легчы плямай на ўвесь род.

Язэп Корсак – самы знакаміты прадстаўнік нашага роду, бо яго касцёлы стаяць і ў наш час. Не ўсе, праўда, але стаяць. І гэта з’яўляецца прыкладам для ўсіх нас, як трэба ахвяраваць сродкі на высокія мэты. Гэта як наказ Корсака для ўсіх нас.




**На здымку:** Аляксандра і Аляксандр Корсакі са сваімі дзецьмі Казімірам і Францішкам.

***У размову ўступае ксёндз Аляксандр Івашчонак:***

– Продак пана Аляксандра, Рафал Корсак, які быў уніяцкім архімандрытам, потым мітрапалітам Кіеўскім, Галіцкім і ўсяе Русі дапамагаў Язэпу Корсаку пры арганізацыі будаўніцтва храмаў, бо меў добрыя сувязі ў Рыме. Таму сімвалічна тое, што яго нашчадкі дапамаглі ў аднаўленні партрэта фундатара ў Глыбокім.

***Мы зноў звяртаемся да пана Корсака:***

**– Раскажыце зараз падрабязней пра сваю паездку ў наш горад.**

– Пасля таго, як мы ўжо мелі кантакт з ксяндзом Мечыславам, як быў напісаны партрэт, атрымалі мы афіцыйнае запрашэнне ад глыбоцкіх уладаў.

Гэта вельмі нас усцешыла, бо напісаць партрэт для касцёла было нашай прыватнай ініцыятывай. Але пасля размовы ксяндза Мечыслава з панам Алегам Морхатам атрымалі мы афіцыйнае запрашэнне на свята горада.

Усё гэта было вельмі прыемна для нас – удзельнічаць разам з мясцовымі жыхарамі ў святкаванні гэтага юбілею. Гэта было цікавае спалучэнне – сустрэча сённяшняга і мінулага. Бо цяперашнія гаспадары горада запрасілі мінулых, якія пры выпадку маглі штосьці таксама ахвяраваць для гэтага горада. Гэта была вельмі прыемная і запамінальная сустрэча. Мы былі першы раз у Беларусі, але цяпер ужо ведаем, што не апошні.

На жаль, Беларусь зараз не мае бязвізавага рэжыму з Еўразвязам. Таму запрашэнне ад глыбоцкіх уладаў нам вельмі дапамагло, бо нам удалося пазбегнуць шмат якіх фармальнасцяў.

Таксама пэўнай праблемай было прывезці гэты партрэт, бо ён ледзь змясціўся ў аўтамабіль. Яшчэ адной праблемай было правезці яго праз мяжу, бо яго маглі палічыць за мастацкую каштоўнасць. Тут ужо дапамаглі нашы ўлады, якія далі нам даведку, што гэты твор не з’яўляецца мастацкай каштоўнасцю.

І вось пад’язджаем мы да Глыбокага, а тут над усім горадам на небе вясёлка! Неверагодна!

Мы планавалі пабыць у горадзе як прыватныя асобы, але адразу пасля прыезду гэтыя планы прыйшлося адкінуць, бо мелі мы вельмі шмат спатканняў.

Нас вельмі добра прынялі ў Глыбокім, дзякуем асабіста пану Алегу і пані Галіне, мы ўдзельнічалі ва ўсіх афіцыйных мерапрыемствах, былі на Імшы ў касцёле, пазнаёміліся з біскупам Алегам, наведалі ўрачыстасці ў Будславе, якія працягваліся ўсю ноч. Нават спаць не было калі.

**– А скажыце, гэта было першы раз, калі прадстаўнікі Корсакаў сустрэліся разам?**

– Калі я атрымаў запрашэнне, я праінфармаваў астатніх прадстаўнікоў нашага роду. Нас мелася прыехаць адзінаццаць асоб, змагло прыехаць толькі дзесяць. Скажу праўду, гэта ўжо наша другая такая сустрэча. Першы раз мы сустракаліся ў Вільні. Там здарыўся такі кур’ёз. Былі мы на могілках на Росе. Там якраз быў бурай знішчаны помнік на магіле аднаго з Корсакаў. Вялікі каменны крыж упаў уніз. І мы, Корсакі, якія толькі што спаткаліся, цягнулі гэты гранітны крыж наверх, на тое месца, дзе ён стаяў.

**– Дзякуй вам за цікавы расповяд. Спадзяёмся яшчэ раз сустрэць вас у нашым горадзе.**

